№18 (163)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Снежань 2013 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**Более трети белорусских предприятий неплатежеспособны.**

Национальный банк Беларуси констатирует ухудшение в январе-сентябре 2013 года финансового состояния предприятий и организаций республики.

“Более трети предприятий, учитываемых в текущем порядке, являются неплатежеспособными, то есть имеют одновременно коэффициент обеспеченности собственными оборотными средствами и коэффициент текущей ликвидности ниже норматива”, - отмечается в аналитическом обозрении Нацбанка, опубликованном на сайте регулятора.

### У Прыдняпроўі

**738 экономических преступлений, 247 из которых — коррупционные, зарегистрировали в регионе за одиннадцать месяцев текущего года.** Об этом сообщил прокурор Могилёвской области старший советник юстиции Александр Чадюк. По итогам рассмотрения актов прокурорского надзора за нарушение требований антикоррупционного законодательства к дисциплинарной ответственности привлечены 104 лица, к административной — 9, к материальной — 46 лиц (взыскано свыше 150 млн. рублей). В текущем году прокуроры возбудили 28 уголовных дел коррупционной направленности и 15 уголовных дел по иным фактам совершения экономических преступлений.

### У раёне

**Средняя заработная плата** по народному хозяйству Белыничского района в октябре 2013 года сложилась на уровне Br4585,3 тыс. По сравнению с аналогичными периодами 2012 года темп роста номинальной заработной платы составил 127,8%.

На учете в управлении по труду, занятости и социальной защите состоит 6924получателей пенсий и пособий.

# ВЫБАРЫ Ў МЯСЦОВЫЯ САВЕТЫ ДЭПУТАТАЎ У БЯЛЫНІЦКІМ РАЁНЕ ПРОЙДУЦЬ НА АЛЬТЭРНАТЫЎНАЙ АСНОВЕ?

***Выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў Беларусі дваццаць сёмага склікання прызначаны на 23 сакавіка 2014 года. Адпаведны ўказ № 557 Аляксандр Лукашэнка падпісаў 16 снежня.***




Дата вызначана з улікам устаноўленых законам тэрмінаў на ўтварэнне тэрытарыяльных выбарчых камісій, падрыхтоўку і правядзенне іншых выбарчых дзеянняў у адпаведнасці з патрабаваннямі Канстытуцыі Беларусі і Выбарчага кодэкса Беларусі, паведамляе БЕЛТА.

Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў даручана ў адпаведнасці са сваімі паўнамоцтвамі арганізаваць правядзенне выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў і ажыццяўляць кантроль за выкананнем заканадаўства аб выбарах.

Дзяржаўныя органы і іншыя дзяржаўныя арганізацыі павінны забяспечыць выкананне ва ўстаноўленыя Выбарчым кодэксам Беларусі тэрміны аднесеных да іх кампетэнцыі арганізацыйных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў.

Фінансаванне выбарчай кампаніі будзе ажыццяўляцца за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту.

Мяркуецца, што ў выбарах у мясцовыя Саветы ў Бялыніцкім раёне прымуць удзел, акрамя праўладных, і альтэрнатыўныя кандыдаты ў дэпутаты. У прыватнасці, аб тым, што яны збіраюцца ўдзельнічаць у выбарчай кампаніі ў якасці кандыдатаў у дэпутаты ў мясцовыя Саветы, журналістам нашай газеты ўжо паведамілі бялыніцкі прадпрымальнік, актывіст кампаніі “Гавары праўду” Алег Мяцеліца і грамадскі актывіст Пётр Шымбалёў.

Яшчэ некалькі грамадскіх актывістаў з Бялыніцкага раёна пакуль не вызначыліся з пытаннем, прымаць ім удзел у гэтай выбарчай кампаніі, альбо не.

Ёсць у нашым раёне і такія прадстаўнікі дэмакратычных сіл, якія

*(Заканчэнне на стар. 3)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# БЕЛАРУСЫ ЧАКАЮЦЬ НАВАГОДНЯГА «ПАДАРУНКА» АД УЛАДАЎ

***Асноўнае пытанне, якое зараз задаюць мне пры сустрэчах знаёмыя і незнаёмыя бялынічане – ці будзе пасля Новага года дэвальвацыя беларускага рубля? На жаль, даць ім дакладнага адказу я не маю магчымасці, бо прагназаваць далейшае развіццё падзей не бяруцца нават самыя дасведчаныя эканамісты – вельмі шмат знешніх фактараў, якія могуць аказаць уплыў на стан беларускага фінансавага рынка. Адзін з галоўных такіх фактараў – ці знойдуць нашы слаўныя беларускія ўлады на дваццатым годзе свайго нязменнага кіравання чарговы крэдыт, якіх мы і так набралі цэлую процьму, каб падтрымаць нашу, дыхаючую на ладан, эканоміку. Таму тое, калі менавіта здарыцца чарговы абвал, сёння адназначна не спрагназуе ні адзін эксперт.***

***Каб даць уяўленне чытачам “Паходні”, што можа чакаць іх у наступным годзе, мы публікуем матэрыял інтэрнэт-газеты “Салідарнасць” з чатырма варыянтамі найбольш верагоднага развіцця падзей.***

# ЧАТЫРЫ СЦЭНАРЫ ДЭВАЛЬВАЦЫІ

З пачатку года беларускі рубель патаннеў у адносінах да даляра на 10%, да еўра - амаль на 15%.

Стабільнасць нацыянальнай валюты не абяцае нават дзяржпрапаганда. “У нас ідзе плаўная дэвальвацыя”, - прызнала яшчэ ў верасні старшыня праўлення Нацыянальнага банка Надзея Ермакова.

Многія грамадзяне падазраюць, што можа быць такім, як у 2009 годзе (тады рубель раптоўна паваліўся на 20%).

«Салідарнасць» публікуе чатыры варыянты развіцця падзей.




### Сцэнар №1. Дэвальвацыя пад кантролем

Калі «ўсе зоркі складуцца», то нельга выключаць, што рубель і далей будзе таннець гэтак жа размерана, як у 2013 годзе. Верыцца ў гэта з цяжкасцю, але для чысціні эксперыменту нельга не згадаць і пра такі сцэнар. Пакуль плыўную дынаміку курсу ўдаецца забяспечваць коштам змяншэння золатавалютных рэзерваў. Але запасаў у дзяржаўнай скарбонцы надоўга не хопіць.

«Унікальнай эканамічнай мадэлі» неабходная пастаяннае знешняе падсілкоўванне: крэдыты, а лепш субсідыі, прычым у пастаянна вялікім аб’ёме. Нават Масква наўрад ці гатовая спансіраваць Менск у неабходных яму аб’ёмах. Таму прадухіліць абвал беларускага рубля ў сярэднетэрміновай перспектыве здольны толькі цуд з серыі «прарвала газам».

### Сцэнар №2. Дацягнуць да выбараў

Складваецца ўражанне, што ўлады краіны на дадзеным этапе ставяць сабе больш прызямлёную задачу - дажыць без вялікіх фінансавых прыгод да наступных прэзідэнцкіх «выбараў». Галоўнае, каб рэзкая дэвальвацыя не стала дэтанатарам народных хваляванняў напярэдадні чарговага палітычнага шоў. А пасля таго, як «волевыяўленне» адбудзецца, можна і зладзіць рымейк 2009 года - толькі 20% справа наўрад ці абыдзецца.

### Сцэнар №3. Кіраваны выбух

Аднак сітуацыя ў эканоміцы такая, што ўлады не ўпэўненыя ў здольнасці ўтрымаць рубель нават на працягу бліжэйшых паўтары гадоў. Не выключана, што неабходнасць сур’ёзна знізіць курс нацыянальнай валюты ўзнікне яшчэ да «выбараў».

У гэтым выпадку рашэнне аб дэвальвацыі можа быць прынята ў самы бліжэйшы час - каб да моманту прэзідэнцкай кампаніі чарговае піке рубля паспела крыху забыцца (памяць, па меншай меры, у частцы насельніцтва цалкам сабе дзявочая). З пункту гледжання гэтага сцэнара рэзкая дэвальвацыя магчымая ў першай палове 2014 года.

### Сцэнар №4. Шок і хаос

Згодна з гэтым варыянтам, улады ўсё-такі паспрабуюць не дапусціць значнага зніжэння курсу рубля да

*(Заканчэнне на стар. 5)*

# НАШ ДЕПУТАТ СТАЛ КООПЕРАТОРОМ

***Заместитель главы Администрации президента, депутат Совета Республики Национального собрания РБ от нашего региона Валерий Иванов назначен председателем правления Белорусского республиканского союза потребительских обществ.***



***Валерий Иванов***

Президент Беларуси для избрания на должность председателя правления Белорусского республиканского союза потребительских обществ согласовал кандидатуру Валерия Николаевича Иванова. Об этом сообщил 17 декабря глава Администрации президента Андрей Кобяков, представляя Валерия Иванова коллективу Белкоопсоюза.

Планируется, что 26 декабря состоится общее собрание представителей уполномоченных потребительских обществ, на котором кандидатура Валерия Иванова будет предложена для избрания председателем правления Белкоопсоюза.

Судьба этого чиновника по-своему интересна, пишет интернет-сайт UDF.BY. В 2008 году малоизвестный "вертикальщик" был выдвинут кандидатом в депутаты по Шкловскому избирательному округу - тому самому, который стал трамплином для будущей президентской карьеры Александра Лукашенко. А после достался по наследству давнему приятелю президента - Владимиру Коноплеву до его отставки с поста председателя Палаты представителей.

Не удивительно, что в Палате представителей Валерий Иванов не затерялся, и сразу был избран вице-спикером. Затем этот ценный кадр был перекинут в правительство на должность вице-премьера, курирующего АПК. Однако и там протрудился не долго, перебравшись в кресло главы Белорусской калийной компании.

Эксперты поговаривают, что именно "профессиональным" управленческим качествам Валерия Иванова БКК очутилась в нынешнем незавидном положении. Однако чиновник и здесь вышел сухим из воду, получив в июле 2013 года пост заместителя председателя Администрации президента.

И вот новое назначение.

Напомним, в июле 2013 года Комитет государственной безопасности заявил о возбуждении сразу пяти уголовных дел в отношении снятого с должности председателя "Белокоопсоза" Сергея Сидько, начальника управления капитального строительства общества Дмитрия Колодезного, его заместителя, а также нескольких бизнесменов. Руководителям "Белкоопсоюза" вменялось получение взяток, которые достигали 500 тыс. долларов, злоупотребление властью или служебными полномочиями, хищения. Эти преступления были выявлены «в ходе проведения мероприятий по наведению порядка в строительной отрасли».

Руководители "Белкоопсоюза" и бизнесмены, с которыми они были связаны, занимались вымогательством взяток за предоставление объемов работ на объектах потребкооперации и за продажу инвесторам земельных участков и объектов недвижимости. Чуть позже, в августе, КГБ сообщил, что Дмитрий Колодезный также, злоупотребляя служебными полномочиями, лоббировал интересы коммерческих структур при строительстве магазина в Лиде, чем нанес обществу ущерб в размере около 700 млн. рублей.

# ВЫБАРЫ Ў МЯСЦОВЫЯ САВЕТЫ ДЭПУТАТАЎ У БЯЛЫНІЦКІМ РАЁНЕ ПРОЙДУЦЬ НА АЛЬТЭРНАТЫЎНАЙ АСНОВЕ?

*(Заканчэнне. Пач. на стар. 1)*




лічаць, што ўдзельнічаць у выбарах дэпутатаў мясцовых саветаў не мае ніякага сэнсу, бо ніякіх "выбараў" у нашай краіне даўно ўжо няма. Па іх словах, мясцовыя ўлады адразу ж вызначаюць спіс тых людзей, якія павінны стаць "народнымі абраннікамі", а хто з выбаршчыкаў як прагаласуе, не мае ніякага значэння для нашых мудрых чыноўнікаў.

Магчыма, гэты людзі і сапраўды маюць рацыю па гэтаму пытанню, бо цяжка нават уявіць, каб наш слаўны Бялыніцкі раённы Савет дэпутатаў выказаўся супраць любой, нават самай бязглуздай, прапановы райвыканкамаўскіх чыноўнікаў. А чаго варты той факт, з якога "прыколваецца" уся Магілёўская вобласць – ужо два гады бялыніцкія дэпутаты не могуць абраць старшыню райсавета, бо няма адпаведнага загаду зверху. Так і працуюць без кіраўніка пасля таго, як Мікалай Гузнякоў сыйшоў на пенсію. Ужо адзін гэты факт яскрава сведчыць пра тое, якую рэальную вагу маюць Саветы і іх дэпутаты ў Бялыніцкім раёне.

Дарэчы, апошнім дэпутатам Бялыніцкага раённага Савета дэпутатаў, які не баяўся казаць праўду і адстойваць інтарэсы простых людзей перад раённымі чыноўнікамі, быў Валерый Дзямідавіч Вусік, абраны на альтэрнатыўнай аснове дэпутатам райсавета 24-склікання ў 2003 годзе.

***Іван Барысаў***

# ПРЕЗИДЕНТ ЗНАЕТ, СКОЛЬКО КОРОВ НАМ НУЖНО

***Какое-то время игнорировать объективность экономических законов и явлений можно, но рано или поздно это приводит к застою, а затем и к неизбежному краху экономики. Мировая история полна примеров, подтверждающих эту незыблемую аксиому. Свой вклад в её «доказательство» внесла и наша страна, управляемая первым, несменяемым и до сих пор единственным президентом. Но Александр Лукашенко навряд ли согласится с таким выводом. Что ж, давайте посмотрим, к чему привела его деятельность в сельском хозяйстве, где бывший председатель совхоза считает себя настоящим знатоком.***

В Беларуси на финансирование АПК выделяются просто астрономические суммы. Достаточно сказать, что только за последние 10 лет из бюджета на эти цели ушло более 40 миллиардов долларов. Для сравнения — золотовалютные резервы страны составляют сейчас примерно шесть с половиной миллиардов. Бесспорно, что на сельское хозяйство у нас денег не жалеют. При этом радоваться, в общем-то, нечему. Достижения белорусских аграриев не оправдывают таких огромных затрат. Как раз в этом ноябре глава правительства Мясникович объявил, что рентабельность АПК снизилась вдвое, а на Витебщине вообще в три раза.



Рассмотрим проблему на примере нынешнего состояния молочного животноводства. Трудности в его развитии испытывают даже передовые хозяйства. Вот что пишут про СПК «Колхоз «Родина» Белыничского района, одного из лидеров по надоям в стране: «По признанию председателя СПК Александра Лапотентова, дальше двигаться трудно» («Белорусская Нива» - 28.11.2013). Что же тогда говорить про остальные хозяйства, годами производящие заведомо убыточную сельхозпродукцию?

Кстати, для тех читателей, кто ещё верит славословиям госидеологов, сразу приведём мнение нынешнего главы Минсельхозпрода РБ: «В республике сложилось очень неблагополучное положение в молочной сфере» («Белорусская нива» - 26.10.2013). В принципе, можно понять людей, до сих пор верящих в правильность пути развития белорусского АПК. Ведь их в этом неоднократно и истово заверял лично Лукашенко. Об этом же много лет подряд вещали государственные СМИ. Да и научное сообщество больше восхваляло нашу якобы уникальную экономическую модель, чем заостряло внимание на издержках этой уникальности. В конце концов, отечественное сельское хозяйство, получая миллиардные и триллионные дотации, действительно, существовало в своём особом мире, отдельном от насущных требований современной агроэкономики. Правда, это могло продолжаться лишь до тех пор, пока в казне находились безвозмездные миллиарды и триллионы.

Отметим, что не все в Правительстве послушно соглашались с бездумной тратой бюджетных денег. Скажем, в 2008 году Лукашенко распорядился построить в стране 118 новых МТФ (молочно-товарных ферм). Ещё на первых этапах реализации этого проекта против него выступил тогдашний министр сельского хозяйства Леонид Русак. В статье «Так сколько же коров нам нужно?» («Белорусская Нива» - 5.04.2008) он раскритиковал эту идею.

Вот только одна цитата: «К сожалению, в высоких эшелонах власти идея о безмерных возможностях молочного скотоводства принята как руководство к действию. Прорабатывается вопрос увеличения производства молока не за счёт роста продуктивности, а строительства в каждом районе дополнительно по одной ферме на тысячу коров, чтобы увеличить их поголовье ещё на 120 тыс. Потому предлагаю рассмотреть проблему молочного скотоводства в стране с экономической точки зрения. В республике молочных коров в сельскохозяйственных организациях 1,2 млн. голов и около 250 тыс. в личных подсобных хозяйствах населения. Самая богатая страна мира США с населением 300 млн. человек может позволить себе содержать лишь 9 млн. молочных коров, т. е. одна корова — на 30 американцев. У нас одна корова — на 7 белорусов. Примерно одинаковые с Беларусью по численности населения имеют Венгрия — 330 тыс. коров, Чехия — 430 тыс. коров».

Леонид Русак делал вывод о необходимости возвращения к нормальной общемировой практике хозяйствования, когда результаты достигаются за счёт качественных, а не количественных показателей. Спустя две недели Указом президента он был отправлен в отставку. Аграриям доходчиво дали понять, что путь Америки, Венгрии или Чехии — это не наш путь. Более того, первоначально Лукашенко распорядился построить 118 новых МТФ. А через пару

*(Окончание на стр. 5)*

# ПРЕЗИДЕНТ ЗНАЕТ, СКОЛЬКО КОРОВ НАМ НУЖНО

*(Оконч. Начало на стр. 4)*

лет тяга к гигантомании привела к утверждению программы, предусматривающей создание сразу 1200 молочных комплексов. К чему же привёл белорусское животноводство президентский курс на масштабное строительство ферм и грандиозное увеличение поголовья?

Практически сразу встал вопрос, смогут ли окупиться такие сумасшедшие затраты. Уже на первом этапе программы проверки показали, что «фактическая стоимость одного скотоместа во всех областях оказалась на 20-50% выше запланированной» («Белорусская нива» - 19.3.2010). Семён Шапиро, руководивший тогда сельским хозяйством, в сердцах выразился: «Окупаемость таких комплексов не 6-8, а сто лет». В настоящее же время затраты на реализацию программы растут не по дням, а по часам. Ранее по типовому проекту на строительство одной новой МТФ было запланировано 60 млрд. руб., а в ценах текущего года ферма тянет уже на 90 миллиардов. Неудивительно, что из-за недостатка финансирования сроки ввода в эксплуатацию постоянно сдвигаются.

Не менее существенна и проблема заполнения ферм скотом. Построенные МТФ пустуют, хотя Лукашенко требует: «Не должно быть ни одного свободного скотоместа. Эти фермы необходимо заполнить, и это должно дать прирост поголовья и производства молока». Но укомплектовать МТФ поголовьем малореально. К примеру, только на Могилёвщине для этого нужно найти 33 тысячи молочных коров. А в целом по стране? В таком количестве коров попросту нет. Так что проблема комплектации новых ферм не будет решена даже в отдалённой перспективе.

Самое показательное в сложившейся ситуации то, что осуществление программы не даёт ожидаемых результатов по увеличению производства молочной продукции. С грехом пополам строятся фермы, кое-как растёт поголовье, а вот роста молока не наблюдается. Печатный




орган Минсельхозпрода с недоумением извещает: «Коров больше, а молока — меньше» («Белорусская нива» - 5.11.2013). Вопреки увеличению в сельхозпредприятиях коров ощутимо прослеживается тенденция по сокращению производства молока. Свои позиции сдали более 60 районов, то есть каждый второй в стране. Так что всё более очевидно, что движемся к бесславному финалу.

А ведь президент воплощает свои идеи и представления не в одном только сельском хозяйстве. Что там говорить про строительство ферм, вспомним про его отношение к появлению на белорусской земле АЭС. В 2006 году Лукашенко прилюдно обещал: «Это тот вопрос, который форсировать нельзя. Когда будем решать, обратимся к людям, как у нас заведено. Я здесь ничего скрывать не буду. Будем строить только тогда, когда это решение поддержит народ». А теперь про былые обещания нет и речи. И в этом нет ничего противоестественного, ведь Александру Григорьевичу несвойственно признавать даже свои явные просчёты. У Лукашенко однажды в его публичном выступлении в июне 2012 года это прорвалось неожиданно откровенно: «И если ты где-то что-то берёшь на себя и делаешь не так, как сегодня требует народ, ты должен быть твёрдо убеждён, что завтра народ признает свою ошибку». Думается, что какие-либо дополнительные комментарии к этому удивительному и вместе с тем закономерному саморазоблачению не нужны.

***Тимур НЕЗВАНОВ***

## ЧАТЫРЫ СЦЭНАРЫ ДЭВАЛЬВАЦЫІ

*(Заканчэнне. Пач. на стар. 2)*

«выбараў». Але не ўсё і не заўсёды атрымліваецца так, як плануе кіраўніцтва Беларусі: прыснапамятны 2011 год - таму пацверджанне. Тады ад трохразовай дэвальвацыі рубля не выратавалі ні Масква, ні спробы пазычыць грашанят у самых розных крэдытораў.

У выпадку, калі кан'юнктура складзецца для беларускай эканомікі неспрыяльна, прарваць фінансавую плаціну можа ў любы момант. Калі доўга балансуеш над прорвай, нават адносна лёгкі парыў ветру можа стаць фатальным. І тады цяжка нават уявіць сабе, як нізка ўпадзе рубель.

***Кірыл Букін, "Салідарнасць"***

### Анекдот дня

Деньги портят людей, так что у нас народ в основном хороший…

- Привет! Как дела?
- Зачем спрашиваешь, в одной стране живём…

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ПРА ПОМНІКІ, ТРАКТАРАБУДАЎНІКОЎ І НАШУ БУДУЧЫНЮ

***На паўночным ускрайку горада Шклова, каля прадпрыемства "Аграсервіс, знаходзіцца сціплы помнік – на невялікім пастаменце трактар другой паловы 20-га стагоддзя. Некалі тут нават была шыльда, якая паведамляла, што ў 70-80-я гады ў спецыялізаванай майстэрні Шклоўскай райсельгастэхнікі рамантавалі, а больш дакладна нанава выраблялі з адноўленных і новых дэталяў гусенічныя трактары для патрэб усёй Магілёўскай вобласці.***

Другое жыццё ў шклоўскіх майстэрнях атрымлівалі гусенічныя трактары двух асноўных марак таго часу **Т–74** і **ДТ–54** вытворчасці Харкаўскага трактарнага завода. Апошняя мадэль па ініцыятыве кіраўніцтва сельгастэхнікі і была ўстаноўлена на пастамент каля прадпрыемства. Час змяніўся, неабходнасць ў капітальным рамонце трактароў адпала. Але, з усёй ўпэўненасцю можна сцвярджаць, што амаль два дзесяцігоддзя Шклоў з'яўляўся адным з рэгіянальных цэнтраў трактарабудаўніцтва на Беларусі.




Паходзіць слова трактар ад лацінскага ***Traho*** – "цягну". І савецкі трактар сапраўды цягнуў за сабою калектывізацыю з раскулачваннем, галадам і прымусовым падарожжам у далёкую Сібір, Вялікую Айчынную і іншыя войны, з надрывам грукатаў на калгасных палетках, уздымаў цалінныя землі, праводзіў меліярацыю са знішчэннем рэчак ды лугоў, а разам з іншымі агульнасаюзнымі "рэформамі" і выкарчоўваў з вёсак будучыню.

Пры кожнай магчымасці вясковая моладзь "цягнулася" у гарады на шматлікія сацыялістычныя і іншыя будоўлі. І гэта неабавязкова былі вялікія гарады, калі, напрыклад, будаваўся Мінскі трактарны завод, а і невялікія гарады-райцэнтры, дзе таксама была свая "сацыялістычная" будоўля. На гэтых будоўлях юнакі і дзяўчаты заганяліся ў маленькія камнатушкі інтэрнатаў, дзе ўжо панавалі "гарадское жыццё" і "асобыя" інтэрнацкія законы. У гэтых умовах, разам з парткамамі, прафкамамі і камітэтамі камсамола дзесяцігоддзямі вясковая моладзь "перавыхоўвалася" у духу камуністычнага светаўстрымання і сацыялістычных спапобніцтваў. Тут кожную асобу прыраўноўвалі да патрэбнай функцыі, а агулам чарговае пакаленне беларускай нацыі перамоўвалася ў звычайнае насельніцтва.

Між тым, не гледзячы на ўсе намаганні, камуністычнае светаўспрыманне ўспрымалася вельмі марудна. Жыццё развівалася сваім асабістым шляхам, па нейкіх сваіх, ні дзе непісаных законах. Сталыя працаўнікі Шклоўскай райсельгастэхнікі памятаюць, што абавязкова ў дзень "палучкі" і "авансу", каля мясцовага магазіна збіраўся натоўп рабочага люду, набываліся "вогненныя напоі" і некалькі кампаній, пасля напружаннага "сацыялістычнага спаборніцтва", размяшчаліся прама на зямлі ў невялічкім скверыку. Ужываўся вогненны напой і пачыналіся размовы "аб жыцці", "пра работу" і іншыя разнастайныя бядоты, з якімі штодзённа сутыкаліся гэтыя людзі ў пасяддзёным жыцці. Тут абавязкова вырашаліся пытанні як мясцовага, так і агульнапланетарнага значэння.

Адбываліся таксама "пасвячэнні" уноўпрынятых на работу ў мясцовы калектыў трактарабудаўнікоў. Найчасцейшым выпрабаваннем для якіх было адказ на пытанне пра літары "ХТЗ", якія знаходзілся на радыятарах трактароў Харкаўскага завода. І калі чалавек тлумачыў, што гэтыя літары азначаюць скарочаную назву завода-вытворца, прысутныя, пачуўшы гэты адказ, ўзрываліся гучным рагатаннем. І толькі потым, найбольшы з прысутных "аўтарытэт", тлумачыў, што літары "ХТЗ" на самай справе азначаюць: "Х… трактар завядзеш!"

Паўсюдна на Беларусі ў такіх падобных умовах нараджаўся моўны кентаўр – трасянка. Беларуская мова лічылася выключна калгаснай і кожны ўжо былы вясковы жыхар, хай сабе і невялікага горада, але ўжо сароміўся сваёй "беларускасці". Я ніколі ня бачыў ніводнага чалавека ў цвярозым стане і тым больш нападпітку, які б сказаў пра сябе: "Я – трактарабудаўнік!". Падчас разнастайных "замочак" такі зварот да суседа мог бы скончыцца ўвогуле фатальна.

Калі рабочыя райсельгастэхнікі выбіраліся ў цэнтр, яны казалі – едзем у горад. І гэта не таму, што прадпрыемства ў Шклове знаходзілася на ўскрайку горада. Неаднойчы бываючы ў мікраёне мінскага трактарнага завода, ў якім у асноўным жывуць былыя вяскоўцы, неаднаразова таксама прыходзілася чуць, што суразмоўцу па нейкіх патрэбах неабходна ехаць "ў горад". І гэта гаварылі

*(Заканчэнне на стар. 7)*

# ПРА ПОМНІКІ, ТРАКТАРАБУДАЎНІКОЎ І НАШУ БУДУЧЫНЮ

*(Заканч. Пачатак на стар. 6)*

жыхары Мінска, якія ўжо не першае дзесяціґоддзе жывуць у самым вялікім горадзе Беларусі. На мой асабісты погляд гэта адпавядала іх духоўна-сацыяльнаму стану, яны пакінулі вёску, але па-сапраўднаму "гарадскімі" так і не сталі.

Хто бываў у майстэрнях сельгасгаспадарак, той не забудзе тамтэйшай мёртвай зямлі і паветра, і твары старых механізатараў – зямляністашэрыя, быццам працяг тых жалезных прыладаў. Можна сцвярджаць, што як вясковы працаўнік, так і ўжо "гарадскі" рабочы за апошнія 70-80 гадоў стаў вяршынай эвалюцыі беларускага мужыка пра якога, яшчэ ў пачатку 20-га стагоддзя пісаў беларускі песняр Янка Купала: ***«Я мужык-беларус, - Пан сахі і касы"…».***

Што змянілася з таго часу? Калі шчыра, то безумоўна змянілася шмат. А вось у лепшы бок перамены ўсё-такі нязначная. Па-ранейшаму, асноўная частка насельніцтва Беларусі жыве нібыта ў пачатку стагоддзя. Нацыянальная годнасць, годнасць за сваю Радзіму і надзея на трываласць свойго асабістага лёсу ў большасці насельніцтва ў асноўным адсутнічаюць. Адпаведна не бачна і мэтанакіраваная праца на асабістую будучыню, негаворачы пра мэтанакіраваную працу, або прасцейшыя намаганні на карысць сваёй Айчыны. Людзі жывуць "адным днём" і "абы ціха". Каб выжыць, яны па-ранейшаму, моцна трымаюцца за "саху і касу". І пры гэтым, усё больш людзей далучаюцца да "зялёнага змія" і шчыра захапляюцца размовамі пры тых прайдзісветаў, якія нешта скралі і не злавіліся.

З гэтай нагоды неаднойчы прыходзілася пачуць уражанні ад наведвання Беларусі замежных гасцей. На іх свежы погляд мы па-ранейшаму "***паны сахі і касы"***. Чаму так? Вернемся да помніка-трактара каля былой райсельгастэхнікі. Аднолькавы трактар-помнік знаходзіцца ў Чарнаруцкім сельсавеце. Калі ўлічваць, што вайсковыя танкі і БТРы таксама трактары, толькі спецыяльнага прызначэння, то ўжо пяць тэхнічных адзінак-помнікаў знаходзяцца ў Шклоўскім раёне. А колькі падобных помнікаў па ўсёй Беларусі?

Безумоўна, вельмі добра, што ёсць "тэхнічныя" помнікі. Але ж гэта толькі прылады чалавечай дзейнасці, а дзе помнікі галоўнаму дзеячу сусветнай супольнасці – чалавеку? Колькі на Беларусі вы бачылі помнікаў нацыянальным постацям, славутым дзеячам на ніве беларускага адраджэння? Людзям, намаганнямі якіх у розныя часы і эпохі паўстаў беларускі народ і ўвогуле Беларусь як дзяржава? І ў рэшце-рэшт проста славутым землякам. Такіх помнікаў у нашай дзяржаве вельмі і вельмі мала, а на Шклоўшчыне няма ніводнага.

Уладам ва ўсе часы заўсёды больш зручна і выгадна была гаварыць з папулісцкім пафасам ад імя народу і імем народу, і вельмі нязручна і цяжка вымаўляць простае і добрае слова – **ЧАЛАВЕК**. Савецкая школа ўжывала чалавечую памяць для выхавання будаўнікоў камунізму і таму патрабавала ведаць на памяць клятву юнага піянера, колькасць ордэнаў на сцягу камсамола, склад палітбюро ЦК КПСС. У той самы час яна, як магла, вытручвала гістарычную памяць народу, выбівала з памяці ягоную нацыянальную свядомасць. У выніку памяць беларуса паступова бяднела: з яе выляталі несавецкія падзеі, імёны сапрадных народных герояў, з яе вылятала родная мова і нацыянальныя арыенціры. Спытайце ў беларуса, да прыкладу, якога вялікага паэта ён можа назваць без развагаў, і вы, у бальшыні выпадкаў, пачуеце імя чалавека з суседняй дзяржавы.

Афіцыйная гісторыя паведамляла толькі пра прыгнёт з боку польска-літоўскіх феадалаў і "прагрэсіўны" прыгнёт з боку расійскага царызму, а таксама курная хата, лапці, коўтун у валасах і сацыялістычны росквіт. Тыя, каго такая спадчына не задавальняла, падлягалі знішчэнню, а іншых выхоўвалі ў патрэбным накірунку для абслугоўвання існуючай улады. Вось таму і помнікі ў нас толькі савецкія, або "технічныя".




Вось і беларусы, па-ранейшаму, пазбаўленыя памяці, не адчуваюць духоўнай сувязі з пакаленнямі продкаў, а значыць – і адказнасці за працяг спраў, за будучыню сваёй Айчыны. Такі народ непазбежна ператвараецца ў безадметнае, духоўна спустошанае, паслухмяна-пакорлівае насельніцтва - абы "чарка і шкварка".

На працягу амаль тысячы год, клічуць да нас галасы нашых продкаў. Увесь гэты час лепшыя сыны Айчыны ўздымалі сцяг змагання за нашу волю і долю, каб нарэшце і беларусы маглі людзьмі звацца. Сапраўдныя беларускія каштоўнасці ўвесь час падвяргаюцца агрэсіі, але і ўмацоўваюцца праз спробы іх абараніць. Яны дазваляюць вызначыць, хто мы і што мы. Таму ніколі не трэба забываць, што наша гістарычная памяць, нацянальная мова – самыя важныя каштоўнасці нашай спадчыны.

Ранейшыя пакаленні і сучасны люд адно цэлае, бо народ – гэта ўсе, хто жыў на нашай зямлі, любіў і ненавідзеў, гінуў за яе з часоў Рагнеды і Усяслава Чарадзея. У XXI стагоддзе беларусы ўрываюцца з боем за свае годнасць, імя, правы, за сваю спадчыну, у якой жыве наша будучыня. Браткі-беларусы, няўжо мы горшыя за іншых? Няўжо так і застанемся каля сахі і касы? А можа надышоў час **ЛЮДЗЬМІ ЗВАЦЦА**?

***Аляксандр Грудзіна, былы шклоўскі трактарабудаўнік.***

## ДЕЛО О РАЗБОЕ В БЕРЕЗИНСКОМ РАЙОНЕ РАССЛЕДОВАНО И ПЕРЕДАНО В ПРОКУРАТУРУ

Управление Следственного комитета по Минской области завершило расследование уголовного дела о разбое в Березинском районе, сообщили 11 декабря БЕЛТА в управлении СК по Минской области.

Материалы уголовного дела переданы в прокуратуру для направления в суд. Обвинения по ч.3 ст.207 (разбой, совершенный с целью завладения имуществом в особо крупном размере) были предъявлены 51-летнему жителю Белыничского района.

В УСК напомнили, что преступление было совершено 28 мая 2013 года. "Обвиняемый под вымышленным предлогом продажи автомобиля, угрожая двум минчанам предметами, похожими на револьверы, пытался завладеть их автомобилем и денежными средствами. Получив отказ, злоумышленник выстрелил в одного из них, причинив ранение предплечья и бедра, после чего попытался скрыться с места происшествия", - сказали в управлении. Скрыться этому человеку не удалось, и он был задержан сотрудниками Березинского районного отдела внутренних дел. "Преступление было раскрыто благодаря слаженным и оперативным действиям следствия и органов внутренних дел", - отдельно подчеркнули в УСК по Минской области.

В отношении обвиняемого избранная мера пресечения в виде заключения под стражей не изменялась.

## БЕЛЫНИЧАНИН "ОТЛИЧИЛСЯ" В ДЕРЖИНСКОМ РАЙОНЕ

Двое парней (1988 и 1991 года рождения) в Дзержинске в ночь на 8 декабря, взломав замок, проникли на склад одного из местных ООО и похитили 39 искусственных елей и сосну на сумму Br5,2 млн.

Похищенное изъято, а воры задержаны. Ими оказались неработающие 25-летний житель Белыничского района и 22-летний житель д. Гарбузы Держинского района. Районным отделом Следственного комитета возбуждено уголовное дело.

Печально, но после такой вот своеобразной подготовки к празднованию Нового года, молодые люди имеют все основания для того, чтобы встретить его в тюрьме.

## ВЛАДИМИР ШАНЦЕВ: ВЛАСТЬ ПЕРЕСТУПИЛА ОПАСНУЮ ЧЕРТУ

***Могилевская областная организация ОГП начинает сбор подписей против введения транспортного налога. Требование: отставка правительства во главе с Мясниковичем и роспуск парламента.***



*Владимир Шанцев*

Напомним, в парламенте сейчас рассматривается проект закона, который устанавливает введение пошлины на выдачу допуска на участие в дорожном движении. Предполагается, что ее будут взимать уже с 1 января 2014 года.

По мнению председателя Могилевской областной организации ОГП Владимира Шанцева, таким образом власти пытаются компенсировать за счет народа свои провалы в экономике. Политик убежден – за экономические неудачи должен расплачиваться не народ, а те, кто своими указами завел страну в тупик.

«Власть переступила очень опасную черту, когда решение проблем за счет населения становится уже просто невозможным, – говорит Владимир Шанцев. – В этой ситуации вводить новые налоги нельзя. Но власть этого не чувствует. Она оторвалась от населения. Транспортный налог – это уже перебор. Он коснется огромного числа людей, станет невыполнимой задачей для многих пенсионеров. При прохождении техосмотра им придется выкладывать такие деньги, что на жизнь уже ничего не останется.

Совершенно ясно, что белорусская модель социально-экономического развития оказалась полностью нежизнеспособной. Экономика трещит по швам, идет безудержный рост цен. А правительство делает вид, что ничего не произошло и сваливает тяжелую ношу на население, при этом подумывая о повышении зарплаты чиновникам.

Если у государства нет денег, мы можем подсказать, где их найти. Пусть власти сокращают несметное количество своих идеологов, прекратят финансировать из бюджета «Белую Русь» и БРСМ, вернут в бюджет деньги, потраченные на строительство новой помпезной резиденции.

Я считаю, начиная сбор подписей против этого налога, надо требовать не только отставки правительства и роспуска парламента – стране нужны честные, свободные выборы!»

## ДТП в районе

Вечером 15 декабря вблизи деревни Калиновка Белыничского района житель Белыничей, управляя машиной «Альфа-Ромео», съехал в кювет и ударился в дерево.

В результате водитель, ехавшие с ним пассажир (1989 г.р.) и пассажирка (1995 г.р.) госпитализированы. Еще одна пассажирка, 18-летняя жительница деревни Техтин, погибла.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 18.12. 2013 г. у 08-00.